# Самапомач Гаспадарам

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 3 (56).
Год VI.
Вільня. 25 Сакавіка, 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.


## Свая сарочка—бліжэй цела

Прыказка кажа, што „і сьвятыя трымаюць рукі да сябе“, — а што-ж гаварыць аб людзёх... Выразна пацьвердзіў гэту праўду і апошні зьезд „rolników i leśników z wyższym wykształceniem“ („землYаробаў і лясьнікоў з вышэйшай адкукацыяй*) у Варшаве 2 і 3 сакавіка сёл., прыймаючы рад пастановаў, якія пачынаюцца гэтак:

*„Як урад так і грамадзянства павінны ня толькі зрабіць усё магчымае, каб не паменшыць польскай зямельнай маемасьці, асабліва ў ваяводзтвах нацыянальна мяшаных, але прылажыць усільныя стараньні, каб гэту маемасьць пашырыць“.*

Далей зьезд дамагаецца, каб: *„усе законы пісаліся з думкай аб абароне польскай маемасьці, ва ўсіх галінах жыцьця, а перад усім у галіне валаданьня зямлёй, як падставай вольнага разьвіцьця народу“...*

Урэшце:

*„Зьезд заклікае польскіх землЯробаў, каб... ва ўсіх патрэбах карысталі з працы палякоў“...*

Калі да гэтага дадаць яшчэ такое „аўторытатыўнае“ цьверджаньне таго самага зьезду, што

*„парцэляцыі ня можна штучна(?) праводзіць“,*

ды што ў Польшчы

*„невыстарчальная лічба польскіх школ, у параўнаньні з школамі нацыянальных меншасьцяў“,*

дык схаванае аблічча гэтых „рольнікаў“ пакажацца даволі выразна. Іхнім жаданьнем ёсьць:

1. проціўставіцца „штучнай“ парцэляцыі,

2. на землі ўзятыя пад парцэляцыю, „асабліва ў ваяводзтвах нацыянальна мяшаных“, дапускаць толькі палякоў, якія дзеля „пашыраньня польскай маемасьці“ (пастанова пункт 1) павінны так ці йнакш гэту маемасьць здабываць і ад непалякоў (у нас — ад беларусаў).

3. Аб здаваленьні „меншасьцёвых“) культурных патрэбаў выразна сказалі сваю „праўду“ паны „рольнікі“ ў рэзалюцыі аб школах для гэтых меншасьцяў: школы даць ня хочуць!

Цяпер-жа пытаньне: ці і што значаць усе гэтыя пастановы „рольнікаў“ для нашага сялянства беларускага?

Значаць — і надта шмат! Людзі схаваныя пад стрэшку „рольнікаў“ і „лясьнікоў“ з вышэйшай адукацыяй, гэта з паходжаньня пераважна паны-абшарнікі, або людзі да іх вельмі зблізаныя, каторыя кіруюць усім нашым гаспадарскім і наагул публічным жыцьцём. Ад гэтых людзей у аканчальным выніку залежаць усе фахова-землЯробскія таварыствы і саюзы („кулко рольнічэ“), ад іх залежа коопэрацыя, яны кіруюць—беспасярэдна ці пасярэдна — блізу ўсімі гэтак званымі "грамадзкімі" („сполэчнэ“) арганізацыямі — для дарослых і маладых, яны надаюць тон у самаўрадах, — словам, яны ёсьць усюды, куды толькі ткнецца наш селянін, і якога знаходзяць нават „у собскай хаце на печы“. І гэтыя людзі, уваружаныя капіталам веды, як відаць з іхніх пастановаў, хоць вякамі жывуць і між нашага народу беларускага, — надта далёкія ад зразуменьня нашых патрэбаў (школа!) і надта блізкія — да нашых крыўдаў (надзелы з парцэляцыі!).

Дзівіцца з гэтага, наракаць — сягоньня ня будзем. Кроўныя і племянныя вязі ўсюды лішне сільныя, каб мелі ўступаць прад інтарэсамі чужымі, хоць-бы і найбольш праўдзівымі. Ня будзем гэтага вымагаць і ад чужых нам „рольнікаў“, а захавайма сабе толькі глыбака ў душы іхні-ж кліч, што *„валаданьне зямлёй ёсьць падставай вольнага разьвіцьця народу“*. Аб гэтым вольна і *трэба*(!) нашаму беларусу сягоньня ведаць і паводле гэтага паступаць.

Мала маем свае інтэлігенцыі наагул, а фахова-землЯробскай — асабліва. Верма аднак у вытрываласьць свайго народу, які далёка ня ў добрых варунках трымаўся на сваім загоне дагэтуль і які ні за якую цану ня сьмее адступіць гэтага загону прыезднаму чужынцу і сягоньня. Гэта права і абавязак кожнага народу, гэта і наша права і наш абавязак. А хто проціў гэтага права пойдзе, той заслугоўвае на публічную нагану, як гэта грозяць паны „рольнікі“ для сваіх „загрожаных“ аднаплямёнцаў.

На заканчэньне малая ўвага. Ня маем сваіх землЯробскіх школ, ня маем шырокіх кадраў гаспадарскіх інструктароў, якія бяз укрываных замыслаў маглі-б паказаць, як сягоньня трэба гаспадарыць. А *вучыцца трэба*. Да гэтай мэты ёсьць сягоньня адзіная дарога: беларуская землЯробская кніжка, беларускі гаспадарскі часапіс. „Самапомач“ ахвярue свае скромныя сілы пашыраньню роднай землЯробскай культуры і дзеля таго павінна знайсьці доступ пад кожную беларускую страху. Беларускія гаспадарскія справы можа бараніць толькі беларускі гаспадарскі часапіс. Чужыя гаспадарскія часапісы, чужыя кніжкі, чужыя арганізацыі гэтага ня зробяць. Яны маюць у нас свае собскія, а нам зусім чужыя мэты — — паказалі гэта добра пастановы „рольнікаў“ у Варшаве 2 і 3 сакавіка сёлета.

## Хутарызацыя не патанее.

Паважнай перашкодай для пераходу нашых вёсак на хутары ёсьць дарагая плата каморніка. Шмат хто чакаў, што гэтыя аплаты будуць зьменшаны — і ашукаўся. Міністр Панятоўскі 14 г. м. у Наваградку заявіў, што: аплаты за хутарызацыю (комасацыю) зьменшаны ня будуць; няма так-жа мовы аб скасаваньні даўгоў за хутарызацыю ўжо праведзеную; дрэва-ж на будову школ будзе з году ў год даражэйшае. — А без патаненьня коштаў хутарызацыі сягоньня няма мовы і аб самой хутарызацыі.

## Самапомач — з канешнасьці.

Сабраныя на конфэрэнцыю ў Віленскім ваяводзтве 18 г. м. прадстаўнікі штодзеннай і гаспадарскай прэсы даведаліся ад прадстаўніка ваяводзтва, што для патрабуючых корму для жывёлы ў Дзісеншчыне, Браслаўшчыне і часьці Пастаўшчыны Міністэрства Земляробства нічым не паможа. Пазычкі-ж на гэту мэту абяцалі даць: мясцовыя паветавыя самаўрады, Зямельны Банк і Цэнтральная Каса Земляробскіх Супалак. За гэтыя грошы агулам прадбачаць купіць каля 300 вагонаў корму для скаціны (сена й саломы).

На абсеў палёў на прасторы тых-жа паветаў трэба 500 тыс. зал., з чаго Міністэрства дало гатоўкай 30 тыс. — Купленае за гэтыя грошы пасеўнае насеньне маюць дзяліць самаўрады, маючы на ўвеце толькі дробныя гаспадаркі да 10 гэктараў.

Уся гэта дапамога мае быць безпрацэнтнай пазыкай, якую трэба зьвярнуць сёлета ўвосені паводле восенскіх цэнаў на пашы і на насеньне.

На прасторы гэтых-жа паветаў загрожана недаеданьнем 10 тысяч сем'яў, на пражыўленьне якіх ўжо прызначана 100 тыс. злотаў. Асобна ўспамагаюцца дзеці у 23-х пунктах— самастойных прытулках і пры школах.

*К.*



## АД ВЫДАВЕЦТВА.

Добра кожны робіць, што „Самапомач" чытае і пашырае. Але трэба, каб кожны стаўся і падпішчыкам „Самапомачы", якая пры нізкай цане — 3 зл. на год — ёсьць кожнаму дступнай. Яшчэ таней абыйдзецца „Самапомач" для тых (толькі для тых), хто на адзін супольны адрэс зьбярэць ня менш 5-цёх падпішчыкаў: за пяць экзэмпляраў плаціцца ў год толькі 10 зл., а за 10 экзэмпляраў — 15 злотаў.

Кожны гадавы падпішчык „Самапомачы" атрымае бясплатна „Беларускі Сялянскі Календар на 1937 г. (кніжка).

Як выпісаць „Самапомач"?

Да гэтага нумару далучаюцца „разрахунковыя перaказы" (Конто № 40), якімі з кожнай пошты можна дарма і бяз ніякіх коштаў выслаць належныя за часапіс грошы. Ніякіх больш пісьмаў і наагул выдаткаў рабіць ня трэба. Хто выслаў грошы, а чарговага нумару ў свой час не атрымаў, той замест траціцца на пісьмы ў рэдакцыю, хай зложа на сваей пошце гэтак званую **„рэклямацыю"**, якая нічога не каштуе (дармовая) і якая выглядае гэтак:

На адным баку кавалачка паперы пішацца ўверсе „Reklamacja gazetowa" і ніжэй — адрэс нашай рэдакцыі, а на другім баку толькі гэта:

„Не атрымаў № . . . *(тут падаць каторы нумар)* „Самапомачы" і дадаць свой адрэс. Больш нічога пісаць ня можна.

„Самапомач будзе выходзіць з датай 10 і 25 кожнага месяца.

*Выдавецтва „Самапомачы".*

## Важны закон.

На паседжаньні польскага Сойму быў прыняты закон, які абмежвае абарот зямлёй, набытай з парцэляцыі. Ад часу калі гэты закон увойдзе ў сілу, няможна адкупляць зямлю ад каляніста, а калянiст ня мае права яе прадаць, ні дараваць, ні дзяліць без дазволу паветавага старасты. Хто ж купіў ці купіць такую зямлю, без дазволу старасты, ад таго зямлю адберуць ды йшчэ аштрафуюць да 3 тысяч зл, пасадзяць у арэшт на час да 3-х месяцаў, або дадуць абедзьве кары за раз. — Без дазволу старасты ня вольна купіць такой зямлі і з парцэляцыі.

Кожны, хто за апошні час купіў зямлю, павінен чым хутчэй дакончыць усе фармальнасьці (купчыя і гіпотэка), каб ад яго не адабралі зямлі.

*Пішучы ў рэдакцыю падавайце выразна сваё прозьвішча і адрэс.*

Інж. Ад Клімовіч.

## Асновы земляробскай эканомікі.

2)

Укладаючы капітал у гаспадарку, чалавек рахуе атрымаць больш карысьці, чым калі-б ён гэты самы капітал спакойна складаў у банк. І гэта надвышка над звычайную банкавую норму апрацэнтаваньня ўсяго ўложанага ў гаспадарку капіталу называецца *розьніцаю чыстага прыбытку*. Гэту розьніцу атрымаем. калі ад сырога грашавога прыбытку адыймем кошты прадукцыі,

| | | |
|---|---|---|
| — Сыры прыбытак грашавы . . | зл. | 180 |
| Кошты прадукцыі . . . . . | | 138,20 |
| Розьніца чыстага прыбытку | зл. | 41.80 |

або калі ад чыстага прыбытку адыймем апрацэнтаваньне ўсяго чыннага капіталу.

| | | |
|---|---|---|
| Чысты прыбытак . . . . . . . . | | зл. 70 |
| — 3 проц. ад 500 (сенажаць) | зл. 15 | |
| 6 проц. „ 80 (снасьць) | 4.80 | |
| 7 проц. „ 120 (угнаеньне) | 8.40 . | зл. 28.20 |
| Розьніца чыстага прыбытку | | 41.80 |

У проціўвагу розьніцы чыстага прыбытку, *зыск прадпрыемцаў* азначае надвышку. апрацэнтаваньня над звыклую банкавую норму аднаго толькі ў гаспадарку ўложанага капіталу прадпрыемцавага. Пры гаспадарцы незадоўжанай атрымліваем гэты зыск, калі ад чыстага прыбытку адыймем нормальныя (банкавыя) працэнты з собскага, у гаспадарку ўложанага капіталу:

| | |
|---|---|
| — Чысты прыбытак . . . . | 10 проц. |
| Нормальны проц. банку . | 5 проц. |
| Зыск прадпрыемцаў . | 5 проц. |

5 проц. з 700 зл.=35 зл.

Пры гаспадарцы задоўжанай прадпрыемцаў зыск атрымаем, калі ад чыстага прыбытку адыймем нормальныя працэнты як за свой собскі, так і за пазычаны, у гаспадарку ўложаны капітал:

У гаспадарку пазычана 350 зл. на 12 проц. якія ў год вымагаюць 42 зл.

| | |
|---|---|
| Чысты прыбытак . . | зл. 70 |
| Працэнты з даўгоў . | „ 42 |
| | зл. 28 |

Ад гэтага адлічыць на апрацэнтаваньне собскіх 350 зл па 5 проц. зл. 17.50

| | |
|---|---|
| — | зл. 28 |
| | „ 17.50 |
| Зыск прадпрыемцы | зл. 10.50 |

Калі сума на звычайнае апрацэнтаваньне пазычанага і свайго собскага, у гаспадарку ўложанага капіталу бывае большай, чым сам чысты прыбытак, дык тады атрымоўваем прадпрыемцаву страту.

На паняцьце *прадпрыемцавага даходу* складаецца:

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Пазнайма сваю глебу.

З 10-цёх у нас чалавек, якія кажуць, што сваю глебу знаюць, праўду кажа найвышэй толькі адзін: *дзевяць* чалавек жывуць самаабманам, за каторы дарага прыплачываюць штогоднімі неўраджаямі. Прыклад: сяньняшні голад у паўночнай Віленшчыне. Сягоньня так жыць ужо ня можна. З прыходам вясны якраз пара пачаць цікавіцца глебай, а яна ў даўгу напэўна не астанецца.

Глеба ня ёсьць нечым суцэльным, яна складаецца з большых і меншых зярнятак мінэральных, паміж каторых знаходзяцца йшчэ разложаныя астаткі расьлін (перагной) і ўрэшце—„парожныя" шчэлачкі, напоўненыя паветрам. Зярняткі глебы ўложаны не аднолькава: яны ляжаць або цесна стуліўшыся адно пры другім (рыс. 1), або два-тры-чатыры зярняткі глебы, стуляючыся з сабой твораць невялікія друбочкі, паміж каторых астаюцца большыя чым у першым выпадку шчэліны, запоўненыя паветрам з-права. Залежна ад спосабу ўкладаньня зярнятак глебы— паадзіночку ці ў друбкох — гавораць аб будове (структуры) глебы *суцэльнай* (зьбітай) або аб будове *крупнатай* (друбкавой).

*Рыс. № 1.* **Як збудавана глеба.**



Зьлева — зьбітая (суцэльная), зправа — крупнатая (чорныя мясцы гэта шчэліны паветра).

На якасьць будовы глебы — суцэльную ці крупнатую — мае ўплыў характар самай глебы (пясок, гліна, глей), атмосфэрычныя зьявішчы (дождж, мароз) і ўрэшце сам чалавек, які глебу так ці йнакш абрабляе, або пакідае яе някранутай. Жвіравыя і пескавыя глебы маюць зярняткі большыя, якія з сабой у друбкі ня лучацца і ляжаць стульна паасобку. Пасобку так-жа ляжаць зярняткі і глебы цяжэйшай (гліна, глей), калі гэтай глебы чалавек даўжэйшы час не абрабляе, або калі па ей толькі праходзіць скаціна. Ува ўсіх гэтых выпадках глеба зьлягаецца, ці йнакш кажучы пераходзіць у будову *суцэльную.*

І наадварот, дробныя зярняткі глебы цяжэйшай (гліна, глей) пад уплывам марозу, а так-жа абрабляньня, лучацца з сабой у друбкі. Паўстае гэтак будова глебы *крупнатая,* якая аднак ня трывае вечна: дажджавая перадусім вада, прасачываючыся зьверху ўніз, размывае гэтыя друбочкі на паасобныя зярняткі і глеба ўзноў зьбіваецца, варочаючыся назад у будову суцэльную. Апрача дажджу і сонца, разьбіваюцца друбкі глебы і собскім цяжарам.

Што-ж дзеецца ў глебе злёгшай і што ў крупнатай? Як гэтыя дзьве будовы гаспадараць запасамі вады, каторая тым цэнная, што распускае жывіны глебы і гэтым прыгатаўляе іх да спажыцьця расьлінай? Ня будзь гэтай вады і расьліна гіне ня толькі ад смагі, але

---

| | |
|---|---|
| Даход працоўны (праца гаспадара й ягонай сям'і) | зл. 30 |
| Даход капіталавы (чысты прыбытак) | „ 70 |
| Даход прадпрыемцаў | зл. 100 |

Даход капіталавы ў гаспадарцы незадоўжанай раўняецца чыстаму прыбытку, а ў задоўжанай—чыстаму прыбытку зьменшанаму на працэнты з даўгоў.

Стала пры гэтым трэба памятаць, што ў гаспадарскай эканоміцы паняцьці *чыстага прыбытку і прадпрыемцавага даходу* — гэта два розныя паняцьці.

Урэшце паняцьце *народна-гаспадарскага даходу;* ёсьць гэта сума даходаў: прадпрыемцы, крэдытора (працэнты), наемнікаў (заработная плата) і дзяржавы (падаткі).

## I. Агляд і ацэнка чыньнікаў земляробскай вытворчасьці.

Вытворчасьць у земляробскай гаспадарцы залежа ад зго́днага супрацоўніцтва **чалавека** (праца), **прыроды** і **капіталу**.

Значэньне чалавека, ягоных уроджаных і набытых здольнасьцяў (характар, пільнасьць, адукацыя), як чыньніка гаспадарскай вытворчасьці — кожнаму зразумелае. Ня трэба так-жа доказаў аб значэньні прыроды: якая гдзе ёсьць глеба, які клімат (пагода, градавыя буры, прымаразкі, сонца, паветра, цяпло), воды, мінэральныя багацьці глебы (каменны вугаль, соль). Асобнага й шырэйшага разгляду аднак патрабуе паняцьце *капіталу,* як чыньніка земляробскай вытворчасьці.

Капіталам у значэньні гаспадара-земляроба называем ня толькі грошы ў гатоўцы, але *ўсе сучасткі маемасьці, якія служаць да заработку.* Творыцца капітал з працы ў мінуўшчыне, калі чалавек менш выдаваў, чым зарабляў, а знача — з ашчаднасьці.

Каб лепш зразумець значэньне капіталу ў земляробскай гаспадарцы, дзеляць яго ў розныя групы. Найбольш спатыканым ёсьць падзел на аснаўны капітал і на прадукцыйны.

*А.* **Аснаўны** капітал (к. уласьніка) абыймае ў сабе капітал зямлі, разам з трывалымі, „на глуха" з зямлёй злучанымі свомасьцямі (капальні, воды, крыніцы), правамі ўжываньня (сэрвітуты) і ўсякімі ўстройствамі ў самай зямлі (мэліорацыйныя равы, дрэнажныя трубкі, студні), і над зямлёй (будынкі, мошчаныя панадворкі, бітыя дарогі, гнаёўні, масты) і ўрэшце ўсе дрэвы (сад, лес) і засевы. Відаць з гэтага, што аснаўны капітал неразлучна зьвязаны з гаспадаркай і таму яго часта йшчэ называюць капіталам нярухомым, а так-жа капіталам уласьніка, бо на выпадак арэнды ён заўсёды перадаецца арэндатару і пасьля ад яго бярэцца з паваротам.

*Б.* **Прадукцыйны** капітал (к. арэндатара) абыймае сабой тую групу капіталаў, якія беспасярэдна служаць прадукцыі і дзеліцца на капітал *сталы*(жывы і мёртвы) і *абаротны.* Сталы ж ы в ы капітал прадукцыйны гэта ўся жывіна — як прадукцыйная (ка-

й ад голаду. Вымоўна нас вучыць аб гэтым вось гэты абразок:

*Рыс. № 2.* **Як вада ўцякае з глебы.**




a) Пры будове скрось зьбітай без перашкоды ўцякае ў паветра.

b) Пры будове ўверсе крупнатая вада праз завалочаны ці забаранаваны пласт не праходзіць і ў Ім вязьне.

Сабраная ў сподзе вада не астаецца там бяздзейнай; яна стараецца дастацца наверх так, як дастаецца карасіна па кноце лямпы, або як усплывае ўверх гарбата па куску цукру, адзін канец якога апушчаны ў гарбату. Так і тут. Сподняя вада шукае ў злёгшайся глебе дробных як валасок праходаў (званых *капілярамі*), якімі (чорныя фалістыя стрэлкі) і выходзіць у паветра.

Гэткае вольнае выпароўваньне сподняй вады ёсьць стратай і добры гаспадар павінен да гэтага не дапусьціць: павінен у самым верхнім пласьце паразрываць капіляры, як гэта паказана побач пад літ. *b*. Тады сподняя вада падыйдзе капілярамі аж пад верхні, паразрываны пласт, але далей ужо йсьці не патрапіць і змушана будзе трымацца ў глебе, паіць там расьліну і распускаць для яе корм. Прарываньне капіляраў у верхнім пласьце глебы адбываецца м е л к і м баранаваньнем, або йшчэ лепш — в а л а ч э н ь н е м пры помачы валачыла (глядзі рыс. 3). Узбаранаваны ці завалочаны пласт сам, праўда, высыхае, але ён бароніць ці, як кажуць, заценьвае ад высыханьня рэшту глебы.

З усяго сказанага ясна, што глеба траціць цэнную ваду тады, калі яна знаходзіцца ў будове суцэльнай (зьбітай). Суцэльная будова некарысна для глебы йшчэ і дзеля таго, што глеба няздольна тады карыстаць і з вады дажджавой, якая або бязсьледна сплывае ў ручаі і рэкі (на глебах цяжэйшых), або спаласківаецца ўспод (на глебах пескавых). — Сусім што іншае з глебай у будове крупнатай: тады глеба ня творыць скрасявых капіляраў і ня выпускае з сябе вады сподняй, а так-жа гаспадарна магазынуе ў сабе ваду з атмосфэрычных вопадзяў (дожджу і сьнегу).

*Рыс. 3.* **Валачыла.**



Гаспадарская снасьць, з якой земляроб павінен вясной найраней выйсьці ў поле.

Дзеля гэтага кожны гаспадар павінен старацца ўтрымаць сваю глебу ў будове крупнатай. Першым-жа крокам да гэтага ёсьць выехаць раньняй вясной (прад бараной) на поле з валачылам, і зацяніць глебу. Валачыла кожны можа сабе зрабіць сам: пару кускоў кантаватага дрэва (8×8 см.), зьвязаных драцінай, ланцугом ці хоцьбы звычайнай вяровачкай знайдзецца пры ахвоце ў кожнай зараднай гаспадарцы.—Валачыла гэта першая і канешная гаспадарская снасьць. *С. Я—віч.*



---

ровы дойныя, кормныя, сьвіні, авечкі, куры і г. д.), так і працоўная (коні, валы). Жывёлу ў земляробскай эканоміцы прынята рахаваць на штукі, разумеючы штукай карову. У залежнасьці ад гэтага конь рахуецца як 1½ (паўтары) штукі, жарабя і цяля — паўштукі, сьвіней — пяць на адну штуку і авечак — дзесяць. — Сталы м ё р т в ы капітал прадукцыйны гэта ўся гаспадарская снасьць і машыны (плугі, косы, культыватары, трыеры, сеялкі, сячкарні і г. д.). — Сталы прадукцыйны капітал, як жывы так і мёртвы, раз хутчэй іншы раз вальней зношываецца (зужываецца); таму на пакрыцьцё вылажаных на яго коштаў трэба штогод адлічаць пэўную суму грошаў дзеля амортызацыі (пагашэньня) і апрацэнтаваньня ўложаных грошаў.

*Абаротны* прадукцыйны капітал тым розьніцца ад капіталу сталага, што яго можна ўжыць у вытворстве толькі а д з і н раз, пасьля чаго ён ператвараецца ў капітал зусім іншы. Да абаротнага капіталу залічаем запасы: сяўбовага насеньня, гнаёў, корму, саломы і гатоўкі грашмі, за каторыя можна наняць работніка ды купіць усякія запасы.

Прадукцыйны капітал, у процiўвагу капіталу аснаўному, можа быць названы йшчэ капіталам рухомым, або капіталам арэндатара.

Усе названыя чыньнікі прадукцыі маюць большую ці меншую гаспадарскую вартасьць, залежна ад таго, дзе гаспадарка знаходзіцца, блізка ці далёка ад рынку, як вялікая гэта гаспадарка, якія кругом цэны на прадукты земляробскай вытворчасьці, што ўсё разам узятае творыць „гаспадарчыя варункі“.

Паводле таго, ці капітал ёсьць маемасьцю гаспадаркі ці ейным доўгам, называюць капітал а к т ы ў н ы м (маемасьць на ўласнасьць) ці пасыўным (доўг). Тая ж розьніца, на каторую актыўны капітал перавышае капітал пасыўны, называецца *чыстай маемасьцю*.

Падсумоўваючы цяпер усё сказанае прыходзім аканчальна да састаўленьня капіталаў земляробскай гаспадаркі ў наступным парадку:

**I. Аснаўны Капітал** (к-л уласьніка):

1. Капітал зямлі: поле (зямля), крыніцы, травы.
2. Капітал мэліорацый: равы і дрэнажныя трубкі.
3. Капітал будынкаў: будынкі, панадворкі, дарогі, масты.
4. Капітал расьлінаў: лес, сад, агародныя кусты, засевы.

**II. Прадукцыйны капітал** (к-л арэндатара):

1. Капітал жывіны: (жывы інвэнтар).
2. Капітал снасьці і машынаў: (мёртвы капітал).
3. Капітал абаротны: запасы і гатоўка грашмі.

■

# Абноўка лесу

Цэны на лес пайшлі ўверх. А разам з гэтым зьяўляецца штораз больш пустых праталін, дзе ўчора йшчэ маестатычна шумеў высокі бор. Заўтра-ж, калі нічога не рабіць, можа так здарыцца, што па лесе ня будзе і ўспаміну. А найгорш пры гэтым тое, што скарыстаўшы працу бацькоў і дзядоў, якія сяньняшні лес садзілі, само наша пакаленьне не пакіне для будучага пакаленьня нічога. З гэтых і шмат іншых прычын трэба канешна падумаць аб тым, як нагарадзіць лесу тое, што з яго бяром. Інакш кажучы, трэба канешна, у меру высяканьня лесу старога, засаджываць яго месца дрэўцамі малымі. Рабіць гэта найлепш вясной. Садзіць можна як самасеў, што вырас з сяменьня расьцярушанага па лесе дрэвам-маткай, так і маладыя дрэўцы, выгадаваныя ў лясьніцкіх школках. І першым і другім спосабам можна выгадаваць зусім добры лес. Трэба толькі пільнавацца правільнага саджэньня: 1. Садзіць дрэўца ў зямлю так глыбака, як глыбака сядзела яно ў зямлі прад перасаджваньнем. Пільнаваць, каб карэньне пры перавозцы не абсохла. Найлепш гэта карэньне стала трымаць абсыпаным зямлёй; голым-жа яго можна трымаць прад самай пасадкай не даўжэй 15 мінут. 2. Як самі дрэўцы, так і іхняе карэньне павінны ў новым месцы цесна стуліцца з зямлёй — ня можна там пакідаць пустых шпараў. Карэньне новапасаджанага дрэўца мусіць быць старанна разложана і не паскручывана. 3. Пасьля пасадкі дрэўца, зямлю ўвакол трэба паліць вадой і старанна абціснуць, але не на гэтулькі, каб яна там сьцьвярдзела на камень. 4. У новапасаджаны лес ня можна пускаць скаціны і чужых людзей.

Спосабаў саджэньня лясных дрэўцаў ёсьць некалькі, залежна ад глебы і ад веку самога дрэўца. Разгледзім тут тры галоўныя спосабы: саджэньне ў шчэрбіну, на градку і ў копчык.




Рыс. 4. Спосаб саджэньня лясных дрэўцаў у шчэрбіну і патрэбная агулам да саджэньня снасьць.

Саджэньне ў шчэрбіну ёсьць бадай што найлягчэйшым. Паказана яно на абразку № 4 пад літарай *„a“*: клінам ці калком, ці нават моцнай лапатай адзін работнік робіць у зямлі шчэрбіну, у каторую другі работнік старанна ўкладае дрэўцы так глыбака, каб яговая шыйка была роўная (ня глыбей!) з паверхняй зямлі. Тады першы работнік убівае той самы клін тут-жа побач дрэўца так глыбака, *каб канец кліна дайшоў да самага дна перш зробленай шчэрбіны* і паварочвае гэтым клінам (як паказвае стрэлка) ў бок самага дрэўца датуль, пакуль зямля дакладна не абтуліць карэньня з усіх бакоў. На гэтым-жа рысунку паказаны самыя кліны розньй формы (неасаджаныя — *b*, *c* і асаджаныя — *d*, *e*).

Гэтак можна садзіць толькі вельмі маладыя дрэўцы (адна і двух гадовыя), якія ня маюць яшчэ вельмі шырокага карэньня.



*Рыс. 5.* **Дрэўца пасаджанае спосабам „у градку“ і „ў копчык“.**

Старшыя, 3—5 гадовыя дрэўцы садзяцца звычайна або на градку, або ў копчык. Градкі такія звычайна наворываюцца барознамі з дзьвюх старон. Прад тым як нараць такую градку, у тым месцы, дзе мае гэта градка легчы, трэба зьняць дзярно, каб зямля градкі хутчэй злучылася з сподам.

Саджэньне ў копчык падобнае да саджэньня на градку: рыдлёўкай здыймаецца кусок дзярна і на яговае месца насыпаецца копчык зямлі выкапанай тут-жа побач. У гэты копчык і садзіцца дрэўца. Гэты спосаб найбольш прыдатны ў сялянскіх варунках, дзе звычайна засаджваюцца пустыя праталіны сярод вышэйшага лесу.



*Рыс. 6.* **Як вызначаць мясцы дзеля пасадкі дрэўцаў.**

Спосаб саджэньня ў квадрат — роўная адлегласьць радоў і самых дрэўцаў у радох.

У пульхную градку ці ў копчык усаджваюцца дрэўцы звычайным парадкам 75, 100, 125 і аж 150 см. ад сябе. Рады ад сябе адлеглыя так жа на 100 см. Дрэўцы малодшыя, асабліва калі яны садзяцца ў зямлю моцна зьдзярнеўшую, трэба так-жа садзіць гусьцей. Старэйшыя дрэўцы садзяцца радзей. На землях лягчэйшых садзяць дрэўцы малодшыя, на цяжэйшых— старшыя. Новапасаджанае дрэўца любіць паліваньне.

Парадак саджэньня бывае таксама розны: садзяць у квадрат, у прастакутнік, у трыкутнік — залежна ад варункаў. Рады (грады) на раўнінах звычайна вядуць з усходу на захад, а йшчэ лепш—з паўночнага ўсходу на паўдзённы захад; на склонах-жа гор — упопрак да гэтага склону.

Калі засаджанае дрэўца ня прыжыве, дык на другі год трэба яго замяніць дрэўцам новым, большменш аднагодкам з тымі, што прыжылі.

*Б. С—нік.*

*Kutok dla haspadyń.*

## Piŭny napitak
### chatnim sposabam.

Na pryhatavańnie viadra (12 litraŭ) hetaha napitku treba ŭziać 30 deka jačmieniu, 3 deka chmielu, 15 gram droždžaŭ i 75 deka cukru.

Z jačmieniu treba pierad usim zrabić soład. Jačmień ablivajecca ciopłaj vadoj i stavicca ŭ ciopłaje miesca, kab praros. Jak pakažucca bieleńkija rastki, tady hety praroščany jačmień treba vysučyć, a paśla spražyć da branzovaha koleru na patelniach ci na blasie.

Kali heta ŭžo zroblena, dyk prystupajem da samaha vareńnia. U pabielany sahan biarecca ŭsia porcyja jačmieniu, chmielu, zalivajecca vadoj i varycca datul, pakul jačmień razvarycca (u palcach raściskajecca). Jak heta staniecca, tady uvieś navar pieracedžvajecca praz čystuju tkaninu ŭ dzieraŭlany cebar ci bačonak, Kali vycadžanaha navaru akažycca mienš adnaho viadra (vyvaryŭsia!), dyk da hetaj miery dalivajecca čystaja pieravaranaja vada i za ciapła jšče ŭsypajecca cukar i dobra raźmiešvajecca. Z adstyŭšaha sałodkaha navaru biarecca krycha ŭ kubak, razvodziacca ŭ im droždžy i ŭlivajucca nazad u toj-ža cebar, u jakim pry chatniaj temperatury staić praz 8–9 hadzin.

Praz hety čas piva „bušuje,“ pakidajučy naviersie šumaviny. Hetyja šumaviny pa 8—9 hadzinach źbirajucca, a sam navar razlivajecca ŭ butelki, dobra (mocna!) karkujecca i vynosicca ŭ zimny sklep.

Praz 24 hadziny napitak hatovy da spažyćcia. Uvažna adkarkoŭvać, bo „stralaje.“ Pa 5 dniach tracić na smaku.

## Vialikodnyja pirahi

Dobry piroh možna śpiačy, kali majem dobryja droždžy. Da posnaha piraha biarecca droždžaŭ mienš, da skaromnaha — bolš. Muka pavinna być śviežaj, suchoj, c i o p ł a j (chatniaja ciaplinia) i pierasiejenaj. Usie dadatki tak-ža pavinny być letnija, formy i brytvany — vymytyja i vysušanyja. Samo ciesta treba dobra vymiasić i trymać u ciaple (30°C), kab „vychadziłasia." Jajki pavinny być śviežyja (nie „vapiennyja") pieč — nie za haračaja.

### Piroh niezaparvany.

Na 6 kilo dobraj pšonnaj muki biarecca 12 deka droždžaŭ, 1 litr małaka, 12 žaŭtkoŭ, 30 deka cukru, 30 deka masła, 3 łyžki dobraj alivy, soli — da smaku, poŭpałački vanilii i 25 deka razynak.

Kali hetyja zapasy pryhatavany, prystupajem da raščyniańnia. Sahretuju muku pierasiejvajem praz sita i ŭsypajem u misku. Pasiaredzinie muki robim kopačku, u katoruju ŭlivajem razviedzienyja ŭ letnim małace droždžy. Hetyja razviedzienyja droždžy źmiešyvajem z mukoj na hustoje ciesta, nakryvajem i staŭlajem u ciopłaje miesca, kab „padchodziła." — U hetym-ža časie ścirajem jaječnyja žaŭtki z cukram i vanilijaj. Masła raspuščanaje treba astudzić, razynki — vymyć i dobra vycierci, a białki jajok vybić na pienku.

U mižčasie ciesta padchodzić i jaho treba miasić. Rabić heta treba rukami, jakija prad tym treba staranna vymyć. Pry miašeńni dadajucca paparadku ŭsie dadatki: sol, žaŭtki z cukram i pienka z białkoŭ, paśla masła i aliva i nakaniec razynki. Miasić treba ŭ ciopłym miescy i datul, pakul ciesta pierastanie lapicca da ruk. Jak heta staniecca, tady ciesta nakryvajecca, stavicca ŭ ciopłaje miesca, kab padyjšło i — zaplivajecca pieč.

Kali ciesta ŭ misie vyraście, dyk nakładajecca ŭ brytvany, ci ŭ formy, a kali i tam padyjmiecca, tady para stavić jaho ŭ pieč. Ale ŭvaha! Prad hetym treba pieč pryhatavać i vyprabavać; dobra natapiŭšy treba jaje vymieści i prabavać hetak: kinuć na pot krychu muki. Kali heta muka zharyć zrazu, jak tolki datkniecca na potu (toku) piečy, a časam jašče i ŭ pavietry, dyk heta znak, što pirahoŭ sadzić jašče nia možna, bo jany prypalilisia-b. Treba paru minut pačakać i uznoŭ paprobavać tak-ža mukoj... Sadzić piroh u pieč možna tolki tady, kali ŭkinienaja muka minutu-dźvie pałažyć na pocie i tady tolki zojmiecca ahniom.

Usadziŭšy pirahi adrazu začyniać piečy nia možna, treba pačakać 5 a navat bolš minut, a jušku začyniajem jašče paźniej.

Piroh piačecca 45—55 minut, a časami i hadzinu. Prabavać, ci ŭžo hatovy, možna tonieńkaj vostraj ščepačkaj, jakoj prakołyvajecca skarynka až u miakiš: kali vyciahnienaja z miakiša ščepačka ŭžo s u c h a j a, dyk piroh užo śpioksia.

Vyniatyja z piečy pirahi nia možna zrazu vyjmać z brytvanoŭ, a treba, kab u ich pastajali minut piać, a paśla vykidajucca na zahadzia pryhatavanaje čystaje m i a k kaje miesca (paduška, kažuch), kab nie asieli.

### Piroh na draždžach zaparvany.

Sposab piačeńnia takoha piraha roźnicca ad papiaredniaha tolki tym, što pačynajecca ad zaparavańnia: Usio małako zavaryvajecca, z hetaha biarecca adna šklanka, za horača ŭlivajecca ŭ pryhatavanuju kopačku muki, łyžkaj dobra miašajecca, kab nia było nijakich huzakoŭ i studzicca.

Dalej, ulivajucca raźviedzienyja ŭ letnim małace droždžy i naahuł postup pracy taki samy, jak pry sposabie papiarednim. M. Š.

## Першы вясьняны перагляд пчол.

У цёплы дзень (12°Ц у цені), калі пчолы гучна лятаюць, пчаляр мусіць пераглянуць вулікі з пчаламі. Наўперад ён павінен даведацца:

1. *Ці ёсьць матка.* Далучаны абразок паможа маладому пчаляру адрозьніць матку ад пчалы работніцы і ад трутня. Калі маткі няма, дык гэткую сям'ю трэба злучыць з пнём, які матку мае.



**Пчаліная сям'я:**
1. пчала — матка, 2. пчала — работніца, 3. труцень.

2. *Ці ёсьць яшчэ мёд* — калі няма — паддаць рамку-дзьве з мёдам. А калі такога мёду няма, дык даць цукровую сыту: цукар на палову з вадой.

3. *Ці ёсьць досыць пчалінай мухі.* Калі няма пчол нават на гэтулькі, каб пакрылі чатыры рамкі, дык лепш гэткія пні так-жа злучыць. Калі пчолы абсядаюць 4—5—6 рамак, а пачалі зімаваць на 6, 7, 8 рамках, дык лішнія рамкі лепш выбраць, каб абагрэць гняздо.

4. *Ці пчолы здаровыя.* Калі не здаровыя, дык даведацца, якая гэта хвароба, а перадусім ці ня гнілец. І ў разе калі-б гэта быў гнілец, дык барацьба з ім не заўсёды ўдаецца, асабліва калі пчаляр з гэтай хваробай яшчэ не спатыкаўся: у гэтым разе лепш хворы пень зьнішчыць, бо йнакш хвароба можа распаўсюдзіцца па ўсей пасецы.

5. *Калі пчолы адмёрлі* — заткнуць лётку, праверыць ад чаго адмёрлі. Калі не ад холаду, а ад хваробы, дык трэба вулей прыняць з пасекі і прадэзынфікаваць.

6. *Калі сплесьнілі рамкі* — замяніць іх добрымі, а сплесьнеўшыя высушыць і даць пасьля пчолам абчысьціць, калі варта.

7. *Ува ўсіх пнях вычысьціць дно* ад пчол апаўшых і сьмяцьця, звузіць лёткі, ператрасьці, а дзе трэба дык і зьмяніць падушкі. — Усё што цяпер у вуліку пабачымо, што зробімо ці маемо зрабіць, трэба запісаць у запісную кніжку, проці адпаведнага нумару вуліка. На самую толькі памяць ніколі здавацца ня можна. *Я. Г.*



## Як злучыць рой-бязматак.

Найлепш злучаць зараз-жа пасьля аблёту. Спосаб злучваньня залежа ад вуліка. У вуліку г. зв. славянскім пень — бязматак па паўдні, калі пчолы не лятаюць, падкурываецца дымам і пераносіцца да пня слабога, але з маткай, з каторым і хочам бязматак злучаць. У вульлі з маткаю выкідаюцца з затвору ўцяпленьні і ўкладаецца шчыльная застаўка з дошчак, якая мае дзірку густа засеткаваную, каб адгарадзіць тымчасам сям'ю з маткай, ад далучанага бязматка. У бязматку выймаецца рамка па рамцы з пчалою і ўкладаюцца за застаўку пня з маткаю. Калі-б рамкі не мясьціліся, дык пчолы з іх зьмятаюцца на дно і вулік запіраецца. Цераз два дні перагародка выймаецца і раі злучаюцца.



## Ратунак для галодных пчол.

Шырака й далёка пашыраны спосаб падкормкі пчол р э д к і м цукровым сыропам (сытай) тым непрактычны, што пчолы ад яго часта хварэюць. Ведамы ёсьць з практыкі пчаляроў спосаб прыгатаваньня корму ў форме густога цеста: на тры кілёграмы цукровай пудры (мукі) бярэцца адзін кілёграм мёду.

Мёд разаграваецца ў цёплым месцы і да яго дамешваецца цукар.

Вымешанае густое цукра-мядовае цеста кладзецца над рамкамі на драцяную сетку, а калі такой сеткі няма, дык на тюлёвую марлю, — і ўкрываецца зверху на цёпла. Гэтак можна падкарміць пчолы ў зімовы дзень, бо 4 кілёграмы такога цеста — гэта корм даволі спорны; хопіць яго да цёплай вясны, калі ня страшна даваць і сыроп радзейшы.

Найлепш падаваць пчолам такое цеста ўвечары. *Ш.*

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Землябробскі музэй ў Вільні.** У фаховых Віленскіх кругох паўстала думка арганізаваньня ў Вільні Землябробскага Музэю, перадусім для патрэб студэнтаў землябробскага Аддзелу пры мясцовым унівэрсытэце.

— **Новая фабрыка картону** (грубой паперы) у хуткім часе пачне працаваць у Альшове каля Міхалішак, Сьвянцянскага пав.

— **Тэлефоны для солтысаў.** На прэсавай конфэрэнцыі ў Віленскай Дырэкцыі Пошт і Тэлеграфаў 12.III. прадстаўнікі Дырэкцыі заявілі, што ў пляне іхняй працы ёсьць пашырэньне тэлефоннай сеткі на вёсцы. Тымчасам маюць яны імкнуцца да таго, каб тэлефон быў у кожнага солтыса. — На перашкодзе да шырокага карыстаньня тэлефонам у нас аднак далей стаіць нясумерна— высокая цана за ягонае ўжываньне. І калі гэта цана ня будзе абніжана, дык радасьць невялікая. Карыстаць з яго ўсёроўна ніхто ня будзе, а на аплату пастаўленага ў солтыса апарату хіба даложацца йшчэ новыя падаткі.

— **Фальшывыя грошы.** У Вільні пасьля Казюковага кірмашу былі заўважаны колькі выпадкаў фальшывых банкнотаў („бумажкаў") па 20 зл. Гэтыя падробляныя грошы маюць даволі выразны водны знак і адзначаюцца толькі крыху іншым укладам фарбаў.

— **Ген. Л. Жэлігоўскі** зрокся сяброўства ў урадзе Віленскай Землябробскай Палаты. Газэты пішуць, што прычынай зрачэньня былі спрэчкі ў урадзе Палаты паміж абшарнікамі і асаднікамі.

— **Рыбакі, увага!** Даходзіць да канца размежаваньне ўсіх рыбных водаў на г. зв. рыбныя вокругі. Хто дагэтуль меў якое права лавіць рыбу ў чужых водах, той мусіць аб гэтым праве паведаміць улады найпазьней да 7 красавіка сёл. Калі хто аб гэтым у час не заявіць, дык траціць гэта права на карысьць уласьніка водаў.

— **Жывём стала з даўгоў.** Зямельны Банк і Цэнтральная Каса Землябробскіх Суплак за сэзон 1936-7 г. выдалі пазычак у Віленшчыне 1.211 на суму 365.700 зл., а ў Наваградчыне 862 пазычкі на суму 301.060 зл.—За сэзон 1935-36 г. у Віленшчыне было выдана 1.305 пазычак на суму 374.775 зл., а ў Наваградчыне — 1-299 пазычак на суму 344.730 зл. Знача, сёлета пазычак маем крыху менш, але бяз іх — ані руш.

— **Ашмяна прадае коняў.** Вайсковая Рэмонтная Камісія 17 і 18 лютага сёлета купіла ў Ашмяне 72 коні, заплаціўшы за іх 54.618 зл. — 19 лютага мясцовы Гурток („коло") Гадаўцоў Коняў сарганізаваў акрамя таго закуп коняў на вываз заграніцу. Выкуплена было пры гэтым яшчэ 27 коняў на суму 15.200 зл. Войска купляе коняў лягчэйшых, ад мясцовых матак па швэдзкіх жарабцох, а на вываз ідуць коні цяжэйшыя.

— **Перапісь малачарняў.** Найпазьней да 30 красавіка сёл. трэба зарэстраваць у Землябробскай Палаце ўсе малачарні, коопэратыўныя і прыватныя, калі яны перарабляюць у дзень больш 200 літраў малака. — Незарэестраваная ў азначаным часе малачарня будзе замкнёная.

— **Нашы каровы.** Паводле справаздачы Гадаўлянага Інспэктарату Віленскай Землябробскай Палаты: у Віленшчыне маем (у 1934 г.) 313.637 кароў, а ў Наваградчыне— 273.972, разам 587.609. З гэтага: расы мясцовай і чырвона-польскай— 21 проц., нізіннай—25 проц. і безрасовыя — 54 проц. З 35 гурткоў кантролі малочнасьці на гэтым абшары, гурткі ў Наваградчыне і сумежных паветах Віленшчыны маюць каровы расы чырвона-польскай, у Дзісеншчыне і сумежных паветах – скаціна расы мясцовае і ў Віленска-Троцкім павеце—скаціна расы нізіннай чорна-белай — З названых гурткоў кантролі малочнасьці толькі 11 — самавыстарчальныя; рэшта — 24—атрымлівалі дапамогу ў суме 325 зл. на гурток у год, або 27 зл. у месяц. Кантроляй абнята толькі 1.2 проц. агульнага ліку кароў.

— **Серчыкі не патанеюць,** бо прадстаўнікі швэдзкай супалкі, якая трымае манаполь на выраб серчыкаў у Польшчы, выехалі і перагаворы аб патаненьні тымчасам перапынены.

— **З Вялейшчыны ў Латвію** на заработкі сёлета паедзе 2.500 чалавек. Выяжджаюць яны ўжо ў 1-ай палове красавіка. Праезд чыгункай сёлета ня будзе дармовы: трэба будзе аплачываць чацьвертую часьць вартасьці звычайнага білету.

## Цэны ў Вільні

*22. III.37 за 100 кл.*

| | |
|---|---|
| Жыта | 23.00—24.00 |
| Пшаніца | 28.00—30.50 |
| Ячмень | 22.00—24.50 |
| Авёс | 21.50—22 75 |
| Грачыха | 29.50—30 00 |
| Мука пшонная | 32.75 - 50.50 |
| Мука жытняя разовая | 26.25—27.00 |
| Вотрубы пшонныя | 16.75—17.25 |
| Вотрубы жытнія | 16 00—16.50 |
| Пялюшка | 21.50 - 22.50 |
| Віка | 22.00—23.00 |
| Лубін сіні | 16.00—16.50 |
| Семя лянное | 44.00—45.00 |
| Лён трапаны | 1520 — 1720 |
| Лён часаны | 1950 — 1990 |
| Кудзеля | 1520 – 1560 |

# Што чуваць на сьвеце

### Перасалілі.

Найвышэйшы Суд Савецкай Беларусі ў першых днях сакавіка сёл. засудзіў кіраўнікоў Лепельскага районнага камітэту партыі ў турму на час ад 6 мес. да 2 гадоў за бясправўныя рэквізыцыі і канфіскаты прыватнай маемасьці несколектывізаваных сялян. Адначасна ўлады вярнулі 132-ум несколектывізаваным гаспадаром бясправўна сканфіскаваную маемасьць або ейную вартасьць.

### Нямеччына адказала.

На пісьмо Англіі з лістапада мін. г. Нямеччына адказа толькі цяпер, — яна гатова быццам падпісаць умову аб ненападаньні на Францыю, калі гэта апошняя зрачэцца сваіх дагавораў аб узаемнай дапамозе з Чэхаславаччынай, балканскімі дзяржавамі і Саветамі. — Палітыкі на гэту прапанову ня вельмі квапяцца, — бачаць у ей толькі звычайны манэўр.

### Даюць аўтаномію... ў Чэхаславаччыне.

У Чэхаславаччыне, як і ўсюды ёсьць гэтак званыя нацыянальныя меншасьці: немцы, украінцы (у Прыкарпацьці) і інш. Гэтыя меншасьці ў Чэхаславаччыне мелі дагэтуль шырокія магчымасьці разьвіцьця, аб чым сьведчаць ня толькі тысячы ніжэйшых і сярэдніх іхніх школ, але нават ч а т ы р ы(!) вышэйшыя школы. Апошнім-жа часам газэты прынясьлі вестку, што чэхаславацкі ўрад намераны даць сваім меншасьцям поўную нацыянальную аўтаномію.

### Гішпанскія неспадзеўкі.

Пачатае 8 г. м. наступленьне паўстанскіх, а лепш кажучы нямецкіх і італьянскіх войскаў на пазыцыі войскаў гішпанскага ўраду, спачатку ўдавалася. Апошнім часам аднак гэты наступ заламаўся і войска гішпанскага ўраду ў важнейшых мясцох адабрала назад пакіненыя пазыцыі, а мясцамі дык нават і здабыло абшары новыя.

У фахова-вайсковых кругох лічацца йшчэ з усякімі „неспадзеўкамі" на гішпанскіх фронтах. Але адначасна нязьбіта сьцьвярджаюць факт, што ў апошняй контратацы моцна пацярпела „ахвотніцкая" дывізія(!) рэгулярнага італьянскага войска, што прыйшло ў помач паўстанскаму генэралу Франко.

Дальшы хор выпадкаў на гішпанскіх фронтах будзе залежыць ад таго, якая будзе кантроля гішпанскіх берагоў і граніц: ці тудой сапраўды н і к о м у ня будзе правозіцца шмуглем аружжа і... матар'ял людзкі.

Przesyłka opłacona ryczałtem.



## Коопэратары-міністрамі

У Фінляндыі рух коопэратыўны пачаўся толькі на пераломе 19 і 20-га вякоў, але расьце і магутнее з дня на дзень. Доказам сілы фінскай коопэрацыі ёсьць факт, што фінскі коопэратар В. Таннэр ёсьць старшынёй Міжнароднага Коопэратыўнага Саюзу. Пры апошняй зьмене фінскага ўраду, В. Таннэр стаўся міністрам фінансаў, а новавыбраны прэзыдэнт Фінляндыі Каліо ёсьць так-жа выдатным працаўнікам коопэратыўным.

## Можна ці ня можна?

На апошнім кангрэсе Міжнароднага Коопэратыўнага Саюзу ў Лёндыне была паднята справа рэвізіі некаторых гэтак званых *рочдэльскіх прынцыпаў* коопэрацыі. Між іншым доўга спрачаліся над тым, як разумець палітычную нэўтральнасьць коопэрацыі. І не дагаварыліся. Не дагаварыліся ў гэтай справе і на нарадах Выканаўчага Камітэту Саюзу ў Варшаве ўвосені 1936 г. І толькі на нарадах гэтага-ж Камітэту ад 9 да 12 лютага сёл. ў Штрассбургу (Францыя) была вынесена рэзалюцыя, каторыя, праўду кажучы, замест нешта выясьніць, запутывае справу да рэшты: пастаноўлена было лічыць прынцып палітычнай нэўтральнасьці для коопэрацыі абавязуючым і адначасна сьцьверджана, што нестасаваньне гэтай засады не нарушае так-жа коопэратыўнага характару данай арганізацыі і ня ёсьць перашкодай прыналежнасьці яе да Міжнароднага Коопэратыўнага Саюзу.—Хітрэй хіба ня выдумаў-бы і сам Саламон.

*ЯК БЫВАЕ У ЖЫЦЬЦІ.*

### У маладой сям'і.

Жонка — Чаму ты за гаспадарку не бярэшся? а вот я дык і курачку пасадзіла, і бліноў напякла і...

Муж — ... і гаршчок пабіла, і апалонік зламала і...

Жонка — А твая кабыла падкову згубіла, а я знайшла!

Муж — Ведаеш, ягадка: твой крупнік сягоньня перасолены.

Жонка — А ці-ж ты, галубок, забыўся, як мы перад шлюбам згаварыліся, што ня будзем у чужыя справы мяшацца? Вот-жа я цябе ня пытаюся, ці твая папяроса салодкая, ці горкая, а ты...

# У нас і ў суседзяў

— Наша Народнае Сьвята — гэта ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, якое адбылося ў Менску дня 25 сакавіка (марца) 1918 г. Дзень гэты беларусы па ўсім сьвеце сьвяткуюць як сваё нацыянальнае сьвята. — Незалежнасьць народу ёсьць канешным варункам усестароньняга, а знача і гаспадарскага існаваньня і разьвіцьця.

— Пракурор процiў звальненьня „Бел. Крыніцы" адклікнуўся ў Акружны Суд. Тымчасам з датай 14 сакавіка сёл. выйшаў № 1 „Бел. Крыніцы", у якой на першай бачыне пададзены ў арыгінале апраўдальны прысуд Віленскага Гарадзкога Суду з дня 25 лютага 1937 г.

— У Беларусаведзе — дакладна — у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віл. Унівэрсытэце дня 13 сакавіка адбыліся перавыбары. Старшынёй выбраны студ. Ант. Шукелайць.

— У Беларускім Студэнцкім Саюзе адбыліся перавыбары Ураду дня 14 сакавіка. Склад Ураду: Адам Дасюкевіч— — старшыня, М. Канцэлярчык, Жукоўская, Клім і Засім — сябры.

— Беларусы ў чэсьць Пушкіна арганізавалі акадэмію дня 14 сакавіка. Лекцыю аб Пушкіне прачытаў сэнатар В. Багдановіч, творы-ж юбілята ў арыгінале дэклямаваў Мгр. І. Хворост, а ў уласным дасканалым беларускім перакладзе — паэт М. Танк.

— З выдавецтва. Выйшаў з друку № 2—3 „Беларускага Летапісу і № 1 (10) „Калосься".

— Беларусы ў Францыі ўжо сарганізаваліся ў свой „Хаўрус", які арганізаваў для сваіх сяброў у Парыжы гандлёва-коопэратыўныя курсы. „Хаўрус" выдае свой бюлетэнь.

## У Літоўцаў.

— І ў Варшаве сябе бароняць. 28.ІІ. Варшаўскі часапіс "Dzień Dobry! Kurjer Czerwony" ў артыкуле "Zbrodniczy Litwin w Wilnie" дужа някультурна напаў на павадыра літоўскага грамадзянства ў Вільні грам. К. Сташыса. Вось-жа ў зьвязку з гэтым 2.ІІІ. у рэдакцыю гэнага часапісу зьявіліся два студэнты літоўцы: Таўкачэўскі і Вэлецкі, якія вучацца ў Варшаве, і дамагаліся адклікаць гэны артыкул, Рэдактар не згадзіўся. Тады Вэлецкі даў яму павуху, уручыў свой візытовы білет і сам паклікаў паліцыю. Паліцыя студэнтаў затрымала, але назаўтра звольніла.

— Кара за руганьне. Літоўскі ўрад выдаў распараджэньне, паводле якога кожны, хто публічна ругаецца расейскімі „двухэтажнымі" славамі, будзе караны штрафам да 1.000 літаў. — Прыдалося-б гэта і ў нас.

## У Палякоў.

— Мала землябробскіх школ. Паводле статыстычных падлічэньняў, у 1936 г. ў Польшчы было толькі 173 (з гэтага 143 ніжэйшыя) землябробскія школы. У гэты-ж час Польшч мела 302 школы гандлёвыя і 669 школ рамесьніцкіх і прамысловых. Гэтыя лічбы гавораць самі за сябе, асабліва калі прыняць пад увагу лічбу насельніцтва ў Польшчы, якое жыве з землябробства і якое з гандлю, рамясла і промыслу.

Каб хутчэй направіць гэты крыўдны для землябробства стан, паўстаў у кругох фаховых плян завесьці навуку землябробскай гаспадаркі як прадмету ў 6-ці і 7-мі годніх школах народных („паўшэхных").

— Суды прысяжных дагэтуль былі ў Галіччыне. Сойм прыняў анагдай праект закону аб скасаваньні гэтых судоў, а сэнацкая камісія 16 г. м. выказалася за ўтрыманьнем іх. Хто пераможа?

— Абшарнікі і направячы пайшлі так-жа ў ОЗН, якое цяпер яшчэ больш прыблізілася да скасаванага ББ. Увонках колішняга ББ асталіся йшчэ толькі прафэсыянальныя саюзы ЗЗЗ.

— „Odrodzenie" пакінула эндэкаў. Пры выбарах ураду „Братняй Помачы" студэнтаў Люблінскага Унівэрсытэту, група каталіцкага „Odrodzenia" пакінула эндэкаў і пайшла з групамі дэмократычнымі. Эндэкі, як звычайна, паднялі крык, што творыцца „народны фронт".

— Уся гэта справа тым цікавая, што дзеіцца ў Любліне, сярод студэнтаў Каталіцкага Унівэрсытэту: там, відаць, эндэкаў найлепш пазналі і „раскусілі" і „народнага фронту" не пабаяліся.

— Адстаўка мін. Бэка? Пайшлі чуткі, што быццам міністр заграничных спраў Бэк пакіне сваё становішча, якое мае заняць сяньняшні польскі амбасадар у Бэрліне Ліпскі.

— Тытул ганаровага дохтара мэдыцыны атрымаў ад Віленскага Унівэрсытэту ў дзень сваіх імянін 18 г. м. маршал Польшчы Сьміглы. — Земляки-ж Імяніньніка з Бережан (Галіччына) даравалі яму ў гэты дзень расавага арабскага каня з сядлом.

## У Украінцаў.

— Румынскія апэтыты на украінцаў. У румынскім сэнаце востра выступіў анагдай процiў Букавінскіх украінцаў-уніятаў сэнатар Іорга, якому вельмі не падабаецца, што украінцы аніяк не паддаюцца румынізацыі. Сэнатар Іорга дамагаўся высяленьня з Букавіны Гэнэральнага Вікарага (біскупа) Сімовіча, які быццам падтрымлівае украінцаў на духу, а які займае свой пасад ня з ласкі румынаў, але на падставе конкордату (умовы) Румыніі з Ватыканам.

Шчасьлівыя нашы браты-украінцы, што маюць сваё роднае духавенства.

## З ВІЛЬНІ.

— „Выбухуўласьцівыммесцы" — гэтак назвалі газэты апошні выбух пэтарды на арганізацыйным сабраньні Віленскіх эндэкаў дня 21 г. м.—Вільня, як ведама, цэлае апошняе паўгодзьдзе жыла страхам выбуху пэтардаў, якія злачынная рука закладала пад дзьверы прыватных памешканьняў і грамадзкіх інстытуцыяў, больш ці менш працуўных эндэцыі. Дагэтуль не ўдавалася злавіць злачынцаў. Можа апошні выбух паможа ў гэтай справе.

— Знайшлі скарб на Замкавай Гары ў Вільні. У суботу 13 сакавіка сёл., пры раскопках Замкавай Гары ў Вільні, работнікі знайшлі каля 300 штук розных сярэбраных манэтаў з І-ай паловы 17-га веку (300 гадоў). Манэты гэтыя маюць быць аддадзены ў Віленскі Гарадзкі Музэй.

— Адчыняць катэдру Віленскую 5 красавіка. Была яна замкнёнай ад часу паводкі ў 1931 г.



ПАДПІСКА на „Самапомач": да канца году — 3 зл., на паўгода 1 зл. 75 гр. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам". Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС"

